# БЕЛАРУС

Выдае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне у ЗША
Published by Byelorussian - American Association, Inc.
Address — Адрыс: Byelorussian-American Association, Inc.
385 Alabama Ave, Apt. 17, Brooklin 7, New York, U. S. A.
Падпіска на год $ 2.50 — Subscription per year — $ 2.50
Рэдагуе Рэдакцыйная Калегія

PRICE 10 ¢ ЧАСАПІС БЕЛАРУСАУ У З. Г. А. BYELARUS — WHITERUTHENIAN (BYELORUSSIAN) NEWSPAPER IN THE USA 10 ЦЭНТАЎ

Год IV. № 8 (32) 18 Красавіка 1953 г. NEW YORK, N. Y., U. S .A. April 18, 1953 Vol. IV. № 8 (32)

# Дзівосы Крамля

Апошнія падзеі ў Крамлі гэтак задзівілі дэмакратычны сьвет, што некаторыя ягоныя палітыкі й журналістыя навет пачалі гаварыць аб „цудах" нашых часоў, да таго спасылаючыся на сьв. Апостала Мацьвея! Запраўды, сталіся дзівосы не малыя! Шмат дадзеных гаворыць аб тым, што Сталіну нехта дапамог памерці, ўжо не гаворачы пра Готвальда, які захварэўшы на маскоўскі катар, і трапіўшы пад апеку крамлёўскага лекара, вярнуўшыся ў Прагу, разьвітаўся з жыцьцём. На паховінах Сталіна ягоныя вучні Маленкаў, Бэрыя й Молатаў як быццам забыліся, што яны хаваюць найбольшага, найгеніяльнейшага, найдаражэйшага настаўніка, „сонейка", й г. д. Яны зусім ня дзякавалі яму, не прысягалі ,навет не прыгадалі, што „сонейка" закацілася, як быццам навет не шкадавалі яго! Пасьля-ж паховінаў сталася й такое дзіва, што „Правда" толькі ў колькіх словах абвесьціла аб сьмерці таго, хто быў дагэтуль усім! І гэтыя факты гавораць аб тым, што Маленкаў, Бэрыя, Молатаў, а можа й іншыя мусілі ведаць аб тым, як паміраў іхні ідал. Але напэўна ня ведаў аб гэтым Готвальд, які крыху пасьпяшыўся зьліквідаваць сваіх „дактароў", за што й захварэў на крамлёўскі „катар" а да таго яшче й расплакаўся на паховінах свайго запраўднага бацькі!

Пасьля паховінаў „бацькі" дзівосы пасыпаліся, як сьнег зь неба: зьніжэньне цэнаў, амністыя, звальненьне „шпіёнаў, дывэрсантаў і агентаў" — дактароў, згода на абмен раненымі й хворымі палоннымі ў Карэі, вызваленьне амэрыканскіх і ангельскіх інтэрнаваных, зусім іншы тон Вышынскага ў ЗН ды інш. Словам, воўк як быццам пачаў ператварацца ў ягнятка!

Калі возьмем гэткія дзівы, як зьніжэньне цэнаў, амністыя ды абмен раненымі й хворымі палоннымі ці іншы тон Вышынскага, дык гэта лёгка сабе выясьніць жаданьнем новых крамлёўскіх валадароў аблегчыць сваё палажэньне на нутраным і вонкавым фронце дзеля належнага падзелу спадчыны памерлага дыктатара. Бо ў мамэнт ягонае сьмерці новыя валадары страшэнна, відаць, баяліся непакояў, або навет паўстаньняў сярод сваіх паняволеных. Страх гэты быў ў іх гэткі вялікі, што яны самы ці раз перасьцерагалі падданых перад панікай, заклікалі да адзінства й послуху новым уладаром і толькі дзеля гэтага страху прымушаныя былі нешта даць разжаленым масам. З іншага боку, не падзяліўшы яшчэ спадчыны, належна не замацаваўшыся, яны былі прымушаныя пайсьці на нейкія ўступкі й на вонкавым фронце — даць згоду на абмен раненымі й хворымі палоннымі ў Карэі, звольніць некалькі інтэрнаваных чужаземных дыпляматаў, місіянэраў і журналістых, ды навет запрапанаваць аднаўленьне перарваных перамоваў аб замірэньні ў Карэі.

Дзеля таго, што ў сувязі з гэтымі „новымі" чынамі крамлёўскіх галавароў дэмакратычны сьвет пачаў ужо гаварыць аб „новым ветры" з Масквы, нам хочацца прыгадаць гэтта частае здарэньне ў часе розных выбараў: кандыдат задобрвае сваіх выбаршчыкаў ня толькі абяцанкамі, але часта подкупам ды... гарэлкай! І чым болей ён адурманьвае наіўных выбаршчыкаў, тым горшым будзе іхным прадстаўніком! Нажаль, дэмакратычны сьвет усё яшчэ мала чым розьніцца ад гэткіх наіўных выбаршчыкаў! Бо ўжо навет зьявіліся галасы ня толькі нейкіх там журналістых, але й адказных палітыкаў, што, вось дзеля „новае" палітыкі Крамля трэба пачаць абніжаць прадукцыю зброі. Бо Масква, бачыце, ужо вайны ня хоча, з ёю ўжо можна дагаварыцца! Нам здаецца, што такія думкі не зьяўляюцца толькі выразам наіўнасьці й дзяціннага разуменьня бальшавізму як такога, бо мы ўжо не жывем у 1917-20-х гадох — а ёсьць вынікам слабое працы належных органаў дэмакратычных дзяржаваў. Ды таму, што такія органы ўсёж працуюць, трэба спадзявацца, што „кітайскія" падзеі хіба ня стануцца неўзабаве „індыйскімі!"

Што дэмакратычны сьвет павінен нязвычайна ўважліва й паважна ставіцца ня столькі да збраеньняў ці матарыяльнае моцы крамлёўскіх валадароў, бо ў гэтым яны ніколі не зраўняюцца з Захадам, але ў першую чаргу да іхных палітычна-псыхалягічных крокаў, у якіх дэмакраты дзеці ў параўнаньні з бальшавікамі, — сьветчыць найбольшае дзіва Крамля пра звальненьне „шпіёнаў і агентаў заходніх імпэрыялістых і сыяністых" — арыштаваных калгадзе дактароў. Тут навет чалавеку, што належна разумее бальшавікоў, галава закруціцца! Бож ніхто не паверыць таму, што ані новае палітбюро, ані тым болей гэткі Бэрыя ня ведалі прычынаў і ўсяе справы арышту гэтых людзей! Таксама як ніхто не паверыць, што сам Бэрыя не ламаў робры, не адбіраў розум ці аднэй сотні нявінных ахвяраў! А тое, што ён падпісаў тысячам нявінных прысуды сьмерці ці вечнае катаргі, ведамае ўсяму сьвету і аб гэтым ён сам перадусім найлепей ведае. І вось сталася нешта запраўды незразумелае. Сталася нешта, чаму бы ніхто на сьвеце ніколі не паверыў: крамлёўскія валадары прызнаюцца, што арыштаваныя дактары — нявінныя, што іхныя „прызнаньні" былі вымушаныя недазволенымі сродкамі (!). Што тая даношчыца, фэльчарыца Цімашук - жонка аднаго з арыштаваных прафэсароў, якая ўжо атрымала была ордэн Леніна за „разоблачение врагов", пазбаўленая ордэну й арыштаваная, што самы міністры бясьпекі — Румін і Ігнацьеў, якія кіравалі гэтымі арыштамі, таксама маюць быць арыштаваныя!

Вось гэтыя апошнія дзівосы выклікаюць найбольшае зьдзіўленьне! На першы пагляд выходзіць так, што зьмеі й далей пажыраюць зьмеяў, таму тут нічога новага. Але, што яны робяць гэта такімі спосабамі сьветчыць або аб іхняй сьмяротнай слабасьці й разгубленасьці, або аб вялікай барацьбе за „права" заняць непадзельна пасад памерлага дыктатара.

Аднак, згаданыя дзівы ня значаць, што небяспека для чалавецтва мінула, што стары бальшавізм сканаў. Ён зусім яшчэ ня думае здаваць сваіх злачынных пазыцыяў і бяз бою іх ня здасьць. Яшчэ шмат дзівосаў з яго-

(Канец на 2 бач.)

# Для »Голасу Амэрыкі« няма Беларусі

Пад гэткім загалоўкам у украінскай газэце „Свабода" быў кагадзе зьмешчаны артыкул, у якім аўтар дзівіцца й абураецца з прычыны нікому незразумелага факту, што радыё „Голас Амэрыкі", створанае дзеля антысавецкай прапаганды за зялезнай заслонай, упарта ня прызнае права беларускаму народу й беларускай мове мець у згаданым „Голасе" і свой голас, ня гледзячы на дзясяткі высланых мэмарыялаў і шматлікія інтэрвэнцыі блізу ўсіх беларускіх чыньнікаў ды арганізацыяў з усяго сьвету. Аўтар артыкулу, сп. Кэдрын піша:

— „Акцыя дасьледнае сэнацкае камісіі сэнатара МэкКарты ў справе аздараўленьня апарату Голасу Амэрыкі ад камуністычных уплываў ізноў паставіла на парадку дня пытаньне гэтае дзяржаўнае прапаганднае ўстановы. Нас у даным выпадку менш цікавіць шырокі комплекс пытаньняў, зьвязаных з агульнаю амэрыканскаю афіцыйнаю радыёпрапагандай, ейным накіраваньні й палітыцы, а практычная роля у даўгой „халоднай вайне" ды роля ў выкананьні амэрыканскіх плянаў „псыхалягічнай стратэгіі". Тэмаю гэтых радкоў — адна прорва ў плянаваньні й вядзеньні Голасу Амэрыкі: дачыненьні гэтае ўстановы да Беларусі й беларусаў.

Праўда, можна было-б адказаць зусім коратка, што згаданыя дачыненьні Голасу Амэрыкі — ніякія. Голас Амэрыкі ня мае беларускіх перадачаў, а ці выкарыстоўвае беларускую тэматыку у сваіх іншамоўных перадачах — можна сумлявацца. Сам гэты факт нязвычайна характарыстычны і яшчэ больш характарастычны галоўны аргумант, чаму трэцяя паводле памераў падсавецкая нацыя зусім пагарджаецца ўстановаю, прызначанаю супрацьрзеяць савецкай прапагандзе, пашыраць праўду аб Амэрыцы і старацца прыдбаць ёй прыяцеляў за зялезнаю заслонай. Гэткім аргумэнтам ёсьць цьверджаньне, што „усе беларусы і так разумеюць расейскую, польскую ці інш. мовы і таму адмысловы беларускі аддзел у Голасе Амэрыкі непатрэбны".

Памінаючы абсалютную няправільнасьць гэткага цьверджаньня, яно сьветчыць аб прост клясычным неразуменьні псыхікі эўрапэйскіх этнічных групаў, асабліва ўсходня-эўрапэйскіх, вельмі чулых і можа навет перачуленых на пункце шанаваньня іхных нацыянальных асаблівасьцяў і прыкметаў, у першую чаргу — мовы. Верыць, што можна кагось прыхіліць да сябе, сьведама прамаўляючы да яго моваю аднаго з ягоных найбольшых гістарычных і палітычных сучасных ворагаў (Расея, Польшча), — гэта запраўды больш чымся наіўнасьць!

Чаму-ж легкаважыць сабе Беларусь ды беларусаў да тае меры, каб стаўляць іх па-за межы сваіх прапагандных уплываў?

Як ведама, афіцыйная савецкая статыстыка лічыць колькасьць беларусаў на 8-10 мільёнаў (у запраўднасьці-ж нас — да 18 мільёнаў — Рэд.) і пасьля расейцаў ды ўкраінцаў гэта трэцяя найбольшая этнічная група ў СССР, што засяляе кампактнаю масаю прастору ў звыш 200 тысяч квадратных міляў. Геаграфічна Беларусь ляжыць на мяжы сярэдняе і Усходняе Эўропы, а сама сталіца СССР — Масква — „Сэрца й розум" расейскага імпэрыялізму ды ягоны сымбаль, ляжыць усяго ў адлегласьці 150 ам. міляў ад усходніх межаў этнаграфічнае беларускае прасторы. Мімаволі кідаецца ў вочы вялізарнае стратэгічнае значаньне Беларусі ды патрэба мець ейнае жыхарства поўнасьцяй і бяз усялякіх засьцярогаў па баку Захаду. Лягічна, амэрыканская замежная прапаганда павінна была-б асабліва дбаць аб беларускай праблематыцы ды глыбака задумляецца, над пытаньнем, як ізаляваць беларускі народ ад уплываў маскоўска-бальшавіцкай атруты. Гэтая лёгіка тым яскравейшая, што самы бальшавікі паказваюць сьвету, а перадусім Амэрыцы, дзе ляжаць нэўральгічныя пункты іхнае імпэрыі.

Самы-ж бальшавікі сьцьвярджаюць, што Беларусь мае для іх вялізарнае значаньне ды можа згуляць — побач з Украінаю — першарадную ролю ў змаганьні паміж усходам і захадам. Да таго-ж абедзьве гэтыя краіны -- мэта найбольш зацятае й непераборлівае камуністычнае прапаганднае кампаніі й хіба толькі яшчэ Каўказ можа быць параўнаны зь імі, як ахвяра маскоўскага наступу. У падсавецкай БССР ёсьць аж пяць радыёстанцыяў (Менск, Гомель, Віцебск, Баранавічы й Магілеў) з перадачамі блізу вылучна ў беларускай мове ды із зместам — пераважна проціамэрыканскім. „Прапаганда ненавісьці" плыве шырокаю ракою ў беларускай мове і з беларускіх станцыяў, кіраваная плянава й сыстэматычна маскоўскімі валадарамі. Гэтай самай мэце прысьвечаныя й каля 200 беларускіх часапісаў із звыш мільённым тыражом. „Амэрыканскі імпэрыялізм" там бязупынна малюецца, як „найбольшы вораг беларускага народу".

Але гэтым савецкі прапагандны апарат у Беларусі не абмяжоўваецца. Н. Патолічаў, сакратар ЦК КП Беларусі сам аўтарытэтна прызнаўся на балонках маскоўскае „Правды", што партыя мае ў Беларусі 100.000 прапагандыстых, што становіць па адным бальшавіцкім агітатары на кажныя 50 жыхароў, з малымі дзецьмі разам. Ясна, што гэтая агітацыя ды прапаганда ахапляе й тэатры, клюбы, кіно, школы, уціскаецца ў хаты, у сем'і. Яе мусіць глытаць і ёй мусіць жыць кажны жыхар краіны, бо яна скрозь і ўсюды й ратунку ад яе няма нідзе.

Усё гэтае ня можа быць няведамым вышэйшым амэрыканскім чыньнікам. Яшчэ перад арганізаваньнем Голасу Амэрыкі, калі гэтая ўстанова была адно заплянаваная амэрыканскім урадам, правільныя інфармацыі ад некаторых прыяцеляў паняволеных падсавецкіх народаў атрымаў быў, між іншым, Джордж Аллен, асыстэнт дзяржаўнага сакратара для публічных справаў. Таксама др. Вілсон Комптэн, з адміністрацыі мжінароднай інфармацыйнай службы Дэпартаманту Штату дастаў быў (памінаючы шмат іншых, высланых на ягонае імя рознымі беларускімі арганізацыямі) шырокі мэмар'ял у гэтай справе, асабіста даручаны яму 20 траўня 1952 г. у Вашынгтоне беларускімі прадстаўнікамі сп. А. Махноўскім і Я. Ліманоўскім. Таксама й Старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) сп. Ф. Кушэль зьвяртаўся ці раз у гэтай справе да сп. Алфрэда Пугана, шэфа міжнароднай радыёвай службы (а кагадзе зьвярнуўшыся быў і да сэн. МэкКэрты). Цяжка таксама думаць, каб хто небудзь з кіраўнічых амэрыканскіх чыньнікаў ня ведаў, што Беларусь сяньня — сябра Задзіночаных Нацыяў, дык значыцца, яна-ж **існуе**. Калі-ж наўсуперак усім гэтым фактам і ўсім згаданым намаганьням, пры сваіх вялізарных грашовых магчымасьцях, Голас Амэрыкі ўсьцяж яшчэ ня мае месца для апрычоных беларускіх перадачаў, дык відаць, там працуюць і перамагаюць надалей уплывы, якія або ня надта рахуюцца з амэрыканскімі дзяржаўнымі інтарэсамі, або гэтак дзіўна іх разумеюць, што ў практыцы дзяржаўнай амэрыканскай інфармацыйна-прапаганднай справы, прызначанай для падсавецкіх народаў, усё яшчэ з вялікаю шкодай для інтарэсаў Амэрыкі і ўсяго волелюбнага сьвету, існуюць згаданыя незразумелыя для нікога памылкі й хібы".

## АПОШНЯЯ ІМПЭРЫЯ

На пачатку гэтага году адбыліся зьмены дзяржаўных кіраўніцтваў дзьвёх найбольшых, супроць сябе стоячых сілаў сьвету: Злучаных Штатаў Паўночнай Амэрыкі й Савецкага Саюзу. Зьмены гэтыя першараднай гістарычнай вагі ня толькі для гэтых дзьвёх краінаў і іхных народаў, але й для народаў усяго сьвету.

Цяжка прадбачыць усе далейшыя палітычна-гістарычныя вынікі гэтае, амаль адначаснае зьмены, але трэба аднак падчыркнуць тут і некаторыя іхныя асаблівасьці й некаторыя розьніцы.

У Амэрыцы зьмена кіраўніцтва адбылася ў поўнай суладнасьці з традыцыямі амэрыканскай дэмакрацыі. Без ніякіх паважнейшых перабояў кіраўніцтва гэтае перайшло ў рукі пэўныя, неабцяжаныя няслаўнаю спадчынаю ваенных і паваенных дагоджваньняў і ўступак для тых ґанґстэраў міжнароднага жыцьця, якія ня знаюць ніякіх маральных межаў ані абавязкаў.

У краіне-ж татальнага прыгону й татальнай няволі чалавека й народаў перамена кіраўніцтва прышла ня з волі й жаданьня народу, але толькі сілаю, якая не даецца кантраляваць нат абсалютным валадаром Масквы ды іхнаму МВД.

Тут, у Злучаных Штатах Амэрыкі, зьмена зьвязаная зь вераю народу, што на яе насьпеў ужо час, што час зьмяніць і палітыку й палітыкаў, якія яе з даручэньня народу робяць. Тут пануе агульнае перакананьне, што зьмена, калі браць на ўвагу ўсе нарослыя пытаньні амэрыканскага й пазаамэрыканскага жыцьця, зроблена на лепшае.

Там — перапалох і трывога з прычыны адыходу толькі аднога адзінага чалавека. Там — страх перад будучыняй, страх перад сваім-жа народам, страх перад самымі сабой. Там у першыя-ж дні й тыдні пасьля сьмерці дыктатара пачынаюцца перадзелы ўлады й асабістых уплываў. Над усімі павіс страх, што вось вось пачнуць зьлятаць галовы пры падзеле крывавай спадчыны чырвонага цара.

І таму нічога дзіўнага, што пры такім супакоі й веры ў будучыню на Захадзе, а няпэўнасьці й страху на Усходзе, значна памацнелі й надзеі ўсіх паняволеных народаў сьвету, — а між імі й народу беларускага, — на прысьпяшэньне прыйсьця нямінучага дня вызваленьня.

Надзеі гэтыя маюць сабе за аснову й глыбейшыя гістарычныя прычыны. Сяньня можна сьмела сказаць, што другая сусьветная вайна была й канцавым гістарычным брыжом бальшыні каляніяльных імпэрыяў сьвету, якія павырасталі ў XIX ст. У выніку яе ншчэзьлі як імпэрыі Японія й „новая Рымская імпэрыя" Мусаліні. Мусіла зрачыся пасьля яе сваіх каляніяльных валаданьняў Галяндыя, атрымалі незалежнасьць Філіпіны, Бурма. Найбольшая калішняя Брытанская імпэрыя, ператварылася ў сучасны дабраахвотны саюз народаў, у сваеасаблівы ангельскі „комонвэлз".

Дык гістарычны працэс ідзе зусім ясным шляхам: да ліквідацыі каляніяльных імпэрыяў як палітычна-эканамічных перажыткаў мінулага стагодзьдзя. Разам з гэтым ідзе ліквідацыя й каляніяльнай палітыкі паняволеньня ды эксплёатацыі народаў. Гэтая, наканаваная ўжо ходам падзеяў ліквідацыя каляніяльнай спадчыны XIX ст. ня можа, зразумела, мінуць раней-пазьней і апошняй ды найбольш жорсткай і крывавай імпэрыі — імпэрыі Савецкай.

Працэс усёагульны, закон гісторыі аднолькава важны й аднолькава дзеіць на ўсе народы сьвету. Стуль і зусім пэўны вы-

## *Апошняя імпэрыя*

вад, што гэтае стагодзьдзе мусіць прынесьці й прынясе вызваленьне ўсіх народаў Эўропы ды Азіі, якія сяньня як нявольнікі прыкаваныя да савецкай імпэрыялістычнай калясьніцы.

Ведаюць, адчуваюць на сваёй скуры добра гэты закон гісторыі й валадыры Масквы. Стуль і страх, няўтойны страх таго, што ўжо заўтра дні панаваньня могуць быць палічаныя. Стуль і спроба самаабароны, самаабароны безагляднай, безпераборлівай у спосабах, якая не зважае на мільённыя ахвяры.

Калі **чалавек** бароніцца, проціставіцца накіданаму новаму прыгону — трэба абязволіць гэтага чалавека, кінуць у катаргу, зьнішчыць. Калі **народы** бароняцца перад дэспатызмам — трэба зьвязаць, акаваць, гэтыя народы зядезнаю сыстэмаю „нядрэмлючага вока” МВД.

А калі страх не памагае, калі чысткі, нішчэньні адзінак ня могуць даць зарукі спакойнага сну для крамлёўскіх валадароў, калі народы ўсё-ж лятуцяць аб іншым, вольным жыцьці, тады трэба хапацца за найбольшае злачынства ,якое ведае людзкая гісторыя — народагубства. Трэба зьнішчыць правадыроў, актыў, інтэлігенцыю, вучоных, вядучыя духовыя слаі гэтых народаў, трэба зьнiштожыць іхныя адвечных духовыя вартасьці, іхныя звычаі, іхную культуру, іхную мову. Трэба паралiжуючай атрутай ужо ў дзіцячых душах забіваць усе парываньні да волі, пашану да свайго народу, сваіх бацькоў, сваёй гістарычнай і культурнай спадчыны.

Разрахунак валадароў Масквы тут жорсткі й просты: пакуль будуць народы — яны будуць змагацца за сваю волю. Дык трэба іх сьцерці з паверхні зямлі, трэба зьнішчыць. Меншыя расьцярушыць, рассыпаць па прасторах Эўразіі, каб яны ніколі больш не маглі сабрацца ў вадну грамаду. Большыя й расьцярушваць і паступова асыміляваць, ператвараць у „адзіны савецка-расейскі” народ.

Нічога дзіўнага, што Масква й паза сваёй зялезнай заслонай арганізуе ўсё магчымае для абароны свайго крывавага валадарства. Ёсьць гарачыя энтузыястыя захаваньня гэтае адзінай імпэрыі сьвету й у ЗША. Ды найбольшую паслугу прыносяць маскоўскім дырэктарам савецкага канцлягеру народаў акурат ня тутэйшыя камуністыя, але іхныя „спадарожнікі”, што й сяньня лічаць за сваё найбольшае заданьне бараніць цэласьць Маскоўскае імпэрыі, глушыць, забіваць у вольным грамадзянстве сьвету натуральнае імкненьне да спагады ды помачы тым, хто пакрыўджаныя, паняволеныя ею.

Але не дапаможа й гэта. Хоць паволі, але стала расьце зразуменьне справаў Усходняе Эўропы сярод амэрыканскіх ды сусьветных дзяржаўных мужоў і вядучых палітыкаў. Расьце і ў амэрыканскім народзе зразуменьне, што адзіны шлях, якім павінна йсьці Амэрыка, гэта шлях свабоды ўсім народам, незалежна да якой імпэрыі яны сяньня належаць, і што адзіная справядлівая сяньня палітыка — гэта палітыка вызваленьня, бо толькі яна й можа быць адзінаю зарукаю сваёйжа собскай свабоды й дзяржаўнай незалежнасьці. А вызваленьне народаў, гэта адначасна й канец той апошняй ды адзінай імпэрыі, якая ўжо ад дзясяткаў гадоў нясе сталую пагрозу вайны для ўсяго вольнага чалавецтва, гэта першы пэўны крок да трывалага сусьветнага супакою й дабрабыту, у якім знойдзе належнае месца для вольнага жыцьця і наш беларускі народ.

**Б. Б-іч**

# Савецкая амністыя у тэорыі і практыцы

Як ведама, нядаўна была урачыста прагалошаная новым дыктатарам Савецкага Саюзу Маленковым шырокая амністыя. Рэч гэта ня новая, амністыі абвяшчаюцца ўсюды й заўсёды у выпадку абняцьця улады новым кіраўніком дзяржавы, ці з прычыны якой-колечы іншай вялікай гадавіны. І таму, шкада было-б займаць гэтай падзеяй месца на балонках нашае беларускае прэсы, каб ня вялізарная розьніца паміж амністыяй у якой-колечы дзяржаве сьвету й прагалошанай кагадзе амністыяй савецкай.

Усюдых, памінаючы Савецкі Саюз, амністыя — гэта права, паводле якога на самай справе вызваляюцца з месцаў зьняволеньня ахопленыя амністыяй катэгорыі вязьняў. У Савецкім-жа Саюзе, гэта — адно папяровая, тэарэтычная справа, якая ня мае ніякага практычнага зьдзейсьненьня. Нам беларусам, вельмі добра ведамая, напр. амністыя, абвешчаная з прычыны сьвяткаваньня 3-ціх угодкаў вызваленьня сталіцы БССР Менску ад „улады буржуазіі і ўмацаваньня у ёй улады працоўных”. У амністыі гэтай, пасьля агітацыйнага уступу, абвяшчалася:

— „Моц улады Саветаў Беларусі сталася ачавістай ня толькі для яе прыхільнікаў, але і для тых, хто яшчэ ўчора адносіўся да яе зь недаверам. Учарайшыя праціўнікі савецкай улады, кіруючыся у сваёй супрацьсавецкай дзейнасьці верай у сілу расплывістых і абманных дэмакратычных ідэалаў, мяняюць свой фронт і пачынаюць арыентавацца на савецкую ўладу, бачачы ў ёй адзінага цьвёрдага кіраўніка зруйнаванай гаспадаркі і разьвіцьця асьветы Беларусі дзеля запраўднага забясьпечаньня інтарэсаў працоўных.

— Прыймаючы гэта пад увагу, а такжа хочучы даць магчымасьць сумленным людзям загладзіць сваё прошлае шчырым раскаеньнем (чым не беларуская мова! — рэд.) і сваёй ахвярнай работай на карысьць інтарэсаў працоўных, Прэзыдыюм Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Прэзыдыюм Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі, абвяшчаючы 11 ліпеня, дзень угодкаў асвабаджэньня Менска ад улады буржуазіі, агульнанародным сьвятам для Савецкай Беларусі, апавяшчае амністыю ўсім ніжэй пералічаным катэгорыям асоб, прымаўшых да гэтага часу удзел у супроць-савецкіх дзеяньнях:

1. Учасьнікам антысавецкіх нацыянальных беларускіх фармацыяў пэрыядаў 1918, 1919 і 1920 г. г., паходзячым з працоўнага клясу.

2. Усім беларускім палітычным і культурным дзеячам, быўшым учасьнікам беларускіх антысавецкіх арганізацыяў, і сябрам так званых беларускіх нацыянальных урадаў (Вялікая Беларуская Рада, Найвышэйшая Рада, Урад Беларускай Народнай Рэспублікі. Беларуская Вайсковая Камісія і другія), ня прымаўшым актыўнага удзелу ў барацьбе з Савецкай Уладай у радох савінкаўскіх, балахоўскіх і другіх белагвардзейскіх беларускіх арганізацыяў і ня быўшым на службе ў органах контрразведкі і палітычнай абароны буржуазных дзяржаваў, каторыя публічна аб'явілі аб ляяльных адносінах да Савецкай Улады.

3. Тым з быўшых сяброў беларускай Партыі Сацыялістаў-Рэвалюцыянераў, і другіх беларускіх партый, якія публічна аб'явілі аб сваім выхадзе з партыі і ляяльных адносінах да Савецкай Улады.

4. Усім беларускім сялянам, па нясьведамасьці ўцягнутым арганізацыямі расейскай контррэвалюцыі і беларускімі агентамі і быўшымі на ўслугах замежных дзяржаў, у бандыцкіх шайках або дапамагаўшым апошнім, у тым ліку і уцёкшым за межы Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Увага. Амністыя не датычыць арганізатараў банд і іх каманднага складу.

Падпісалі: Міхаіл Калінін, А. Чарвякоў і А. Янукідзе.

Гэткую „амністыю”, з нагоды 3 угодкаў „асвабаджэньня” Менску ад „улады буржуазіі”, падпісаную высокімі асобамі на чале із М. Калініным, мы, беларусы, адчувалі на працягу аж 30 год. Ці-ж трэба казаць, што яна мела адно прапагандные значаньне і ўсе ейныя „аб'яўленьні” гэтак і засталіся на паперы, што ні адзін беларускі нацыянальны дзеяч з Вялікай Беларускай Рады, Найвышэйшай Рады, Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускай Вайсковай Камісіі і інш. нацыянальных беларускіх арганізацыяй ня быў выпушчаны з турмы ці канцлягеру? Усе-ж тыя, што, паверылі тады (як сяньня хоча верыць Захад у гэткую-ж, бяссумлеўна, „амністыю” Маленкова) савецкаму ашуканству й вярнуліся з Замежжа на Радзіму, былі неўзабаве арыштаваныя й высланыя у Сібір, як Прэм'ер 6-га Габінету БНР праф. Вацлаў Ластоўскі, прэм'ер 7-га габінэту БНР др. Аляксандар Цьвікевіч, Прэзыдэнт Першага Усебеларускага Кангрэсу праф. Іван Серада, Старшыня Беларускай Вайсковай Цэнтральнай Рады Сымон Рак-Міхайлоўскі, кіраўнік Слуцкага Паўстаньня Паўла Жаўрыд і сотні тысячаў іншых дзеячоў беларускага вызвольнага руху, якія падпадалі пад згаданую амністыю.

І трэба нарэшце зразумець, што кажная савецкая амністыя, — гэта адно кавалак звычайнае паперы, як, зрэшты й сотні іншых савецкіх законаў, із славутай Сталінскай папяровай, ніколі нязьдзейсьненай Канстытуцыяй.

**Мікола Вярба**

ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ
І ПАШЫРАЙЦЕ ГАЗЭТУ
**„БЕЛАРУС”.**

# Як жыве беларускі калгасьнік

Із справаздачаў з розных калгасаў з усіх 12 акругаў сяньняшняе Беларускае ССР, калі падсумаваць лічбы, вынікае, што кажны калгасны двор, апрача харчоў дастаў у 1951 годзе яшчэ (ў сярэднім) 673 рублі, а ў 1952 г. — 711 рублёў грашыма. Гэта азначае, што калгасны двор можа купіць 1 пару абутку і 2 мэтры матар'ялу. Калгасны-ж двор гэта ня простая тэарэтычная адзінка, а цэлая беларуская сям'я. Пры гэтым у сям'ю калгаснага двара залічаецца ня толькі муж, жонка й дзеці, але таксама й нежанатыя браты ды сёстры, калі яны жывуць там.

Згаданых грошы не стае навет на самыя неабходныя хатнія патрэбы, як соль, сярнічкі, мыла, голкі, ніткі, не гаворачы ўжо аб куплі абутку ці вопраткі, што сьветчыць у якой скрайнай галіце жыве сяньня беларускі селянін, год па годзе ўсё больш галеючы і данашваючы апошнія лахманы.

Зразумела, што за працадні калгасьнікі дастаюць таксама збожжа, гародніну й сена (аб чым падрабязьней спынімся ў адным з наступных нумароў „Беларуса”), але ўсяго гэтага на харчаваньне сям'і і на ўтрыманьне адзінае, дзе яна яшчэ ёсьць, кароўкі або „сталінскае каровы” — казы ці сьвіньні ніяк не стае. Усе весткі, з Беларусі, якія даходзяць да нас сяньня сьветчаць аб тым, што харчавое становішча на беларускай вёсцы вельмі цяжкое, шмат дзе навет цяжэйшае, чымся ў гарадох.

**М. Кургановіч**

---

## ДЗІВОСЫ КРАМЛЯ
(Канец)

нага боку даведзецца нам і пачуць, і перажыць. Ён пральле яшчэ шмат нявіннае крыві, прынясе шмат няшчасьця народам. І гэтае няшчасьце будзе тым больш, чым больш будзе наіўных палітыкаў, якія ўважаюць, што зьмяя можа стацца галубом, калі толькі прыбярэцца ў пёры. Таму свабодны сьвет толькі з гэтага гледзішча павінен разглядаць новыя іхныя дзівосы. Нажаль, тымчасам гэтыя дзівосы Крамлю памаглі. Дэмакратычны сьвет ані не выкарыстаў запраўды новага цяжкога палажэньня бальшавізму каб паказаць іхным ахвярам — паняволенымі народамі — сваю прыязьнь, выйсьці ім хаця-б псыхалягічна на спатканьне. Наадварот, розныя рэдактары выйшлі на спатканьне катам гэтых народаў, ганячы якраз тых, хто шчыра наважаныя змагацца із згаданымі катамі да апошняга.

**С. К.**

# Баяздольнасьць Савецкай Арміі

(Працяг)

У выніку мірных перамоваў Фінляндыя згубіла Выбарг, але абараніла сваю незалежнасьць. Сталася гэта адно дзякуючы вялізарнаму патрыятызму й запраўднаму гераізму фінскага народу, бо лёзунгі, кіданыя бальшавіцкай прапагандай фінам, як напр. — „Мы нясем вам вызваленьне ад прыгнёту капіталістых”, „Уся ўлада работнікам і сялянам”, — ніякае ўдачы ў фінскага народу ня мелі.

Фінска-бальшавіцкая вайна выявіла вялізарныя недахопы савецкай арміі, як вельмі благое супрацоўніцтва паміж тылам і фронтам, у выніку чаго давоз матар'ялаў да фронту адбываўся нерэгулярна і з вялікім спазьненьнем, недастатковую каардынацыю баявога супрацоўніцтва паміж паасобнымі родамі зброі, як танкамі й пяхотай, пяхотай і артылерыяй і г. д. Найбольшай, аднак, неспадзяванкай як для савецкага генэральнага штабу, гэтак і для штабаў іншых дзяржаваў, зацікаўленых у баяздольнасьці савецкай арміі — была вельмі благая савецкая разьведка. Перад фінска-бальшавіцкай вайной савецкая прапаганда пару пілася пашырыць па сьвеце запраўдныя лягенды аб нязвычайных якасьцях савецкае разьведкі, аб ейнай дасканалай арганізацыі, аб тым, што агенты ейныя праціскаюцца ўсюды і ўсё ведаюць і г. п. Усё гэта, аднак, як паказала практыка, — было ні чым іншым, як запраўды адно лягендаю. Савецкая армія ішла ў наступ насьлепа. Яна ня ведала ані месца, ані характару фінскай абароннай лініі. За гэтыя хібы свае разьведкі савецкая армія заплаціла сотнямі тысячаў ахвяраў. Каб апраўдаць свае няўдачы, Саветы пусьцілі прапаганду, быццам фінская абаронная лінія збудаваная на ўзор лініі Мажыно, што яна блізу непераможная й г. д., аднак, як выявілася пазьней, гэта ўсё было няпраўдай, аб чым сьветчыць у сваіх успамінах і маршал Маннэргэйм.

Гэтаксама вялікай неспадзяванкай была для чырвонаармейцаў поўная няўдача іхнае палітычнае прапаганды. Палітрукам было вельмі нялёгка выкручвацца перад чырвонаармейцамі, калі тыя пыталі іх чаму, напр., фіны што да аднаго чалавека пакідаюць мясцовасьці, займанныя чырвонай арміяй, чаму яны яе ня вітаюць, ня хочуць „вызваленьня”, якое ім нясуць Саветы? Аднак, кіраўнікі савецкай прапаганды хутка сьцямілі, што старыя бальшавіцкія клічы ў дачыненьні да Фінляндыі ня праўдзяць і неўзабаве зьмянілі свае лёзунгі. Справа была пастаўленая проста: СССР мусіць забясьпечыць свае паўночныя межы, а дзеля гэтага Фінляндыя мусіць быць заваяваная і ўсё.

Пасьля падпісаньня замірэньня Фінляндыя вярнула была Саветам іхных палонных. Цікава, аднак, што ніхто, ніколі й нідзе ня сустрэў ні воднага з гэтых вызваленых з палону байцоў. Савецкія вайскоўцы, якія ў часе нямецка-бальшавіцкай вайны трапілі былі ў нямецкі палон, цьвердзілі, што зьверненыя Саветам Фінляндыяй палонныя былі адразу-ж зьвезеныя НКВД у адмысловыя лягеры, дзе яны й былі неўзабаве зьнішчаныя, як былі крыху пазьней зьнішчаныя у Катыні й тысячы польскіх палонных. Было гэта зроблена, быццам, таму, каб не засталася жывога сьветкі таго, як добра жывуць людзі, якім Саветы маніліся несьці „вызваленьне” й „шчасьлівае, радаснае жыцьцё”. У гэтых нікім непашыраных, але усё-ж употайкі перадаваных адзін аднаму зьвестках аб трагічным лёсе людзей, што пабывалі ў фінскім палоне, і крыецца загадка незразумелага на першы пагляд факту, чаму савецкія палонныя, якіх у 1945 годзе саюзьнікі пачалі рэпатрыяваць да хаты, у Савецкі Саюз, — як зрэшты заўсёды ў гэткіх выпадках робіцца, — гэтак роспачна бараніліся перад зваротам на бацькаўшчыну.

Фінска-Савецкая вайна была дазнаньнем для ўсяго вольнага сьвету. Яна вымоўна паказала, што ад савецкае агрэсіі абараніцца зусім ужо ня гэтак цяжка, калі народ краіны, на якую Саветы нападаюць, запраўды патрыятычны й нагэтулькі разумны, каб сьцяміць, што пад манлівай савецкай прапагандай аб „вызваленьні” й „радасным жыцьці” хаваецца звычайны бальшавіцкі імпэрыялізм, які нясе не вызваленьне, а няволю, не шчасьлівае жыцьцё, а голад, галіту й сьмерць. Гэтак якраз і павінны ўсьведамляцца народы, якім пагражае савецкая агрэсія. Патрэбны дзеля гэтага належны прапагандны апарат і бясспрэчна, сацыяльныя рэформы.

Савецка-фінская вайна мела некаторы уплыў і што да наважнасьці Гітлера пачаць савецка-нямецкую вайну, хоць, ведама, ня была ейнай прычынай. Нямецкі генэральны штаб пераканаўся, на практыцы савецка-фінскае вайны аб нізкой баяздольнасьці савецкай арміі і гэта было ўзятае на ўвагу нямецкім галоўным камандваньнем.

Таксама й генэральны штаб савецкае арміі пераканаўся за месяцы згаданае вайны аб вялікіх недахопах свае арміі і таму, пасьля савецка-фінскае вайны пачалася ліхаманкавая перабудова ўсяе савецкае ваеннае махіны. Маленькая Фінляндыя навучыла вялізарную савецкую армію ваяваць.

Нямецкі генэральны штаб не памыліўся ў сваіх разьліках. Калі 22-га чырвеня 1941 г. нямецкая армія перакрочыла тагачасныя савецкія межы і паймкнула на ўсход, дык перавага немцаў была гэткая вялізарная, што гісторыя войнаў ня ведае падобнай. На пачатку гэтага артыкулу прыгадвалася ужо аб разгроме савецкае арміі ў 1941 годзе й праводзілася паралель паміж ім і разгромам царскай арміі у 1914 г. у усходняй Прусіі. Таму, апісваючы гэтта прабег баёў савецкай арміі з нямецкай, давядзецца мо крыху паўтарацца. Удар нямецкай арміі быў нагэтулькі магутны, што супраціў савецкіх войскаў быў зламаны да рэшты ўжо на самым пачатку вайны, у першыя-ж дні, калі немцы сталіся поўнымі гаспадарамі палажэньня й на зямлі і ў паветры. Згруджаныя-ж на заходніх межах савецкае тэрыторыі нязьлічаныя савецкія вайсковыя злучэньні адразу-ж кінуліся ў панічныя уцёкі, здаючыся прыгэтым сотнямі тысячаў у палон. Савецкае лятунства у гэтыя дні нідзе сябе не паказала, як быццам яго й ня было і першыя слабыя спробы супрацьставіцца нямецкім войскам (хутка імі зьліквідаваныя), савецкая армія выявіла адно за Дняпром. І немцы здабылі-б Маскву яшчэ ў кастрычніку 1941 г., прасоўваючыся сваім правым крылом аж над Дон, калі-б на дапамогу ім не паўстаў верны саюзьнік расейскіх арміяў, што ня раз ужо ратаваў быў Расею з цяжкога ваеннага палажэньня — гэта жорсткі расейскі клімат. Гітлер і ягоны штаб нагэтулькі нізка ацанілі савецкую армію, што былі пэўныя цалкам зьнішчыць яе перад надыходам зімы. Цяжка паверыць, каб нямецкім генэралам не прыгадалася дазнаньне французскае арміі з 1912 году, але яны зусім ня былі падрыхтаваныя да зімовай кампаніі, ані з гледзішча забясьпечаньня сваіх людзей цёплай вопраткай, ані датарнаваньня свае ваеннае снасьці да апэрацыяў у глыбокіх сьнягох і пры вялікіх маразох. Гэтая лёгкадумнасьць Гітлераўскіх камандзіраў і была галоўнай прычынай іхнае апаразы на ўсходзе, бо, ня гледзячы на вылучна жорсткую й маразяную зіму 1941-42 г. г., контр-наступ савецкае арміі пад Масквой меў усё-ж вельмі малыя вынікі. Нямецкая армія была, праўда, адагнаная на захад кілёмэтраў на сто, але далей не пайшла і неўзабаве пачала ўдала адбіваць савецкія атакі. Гэтаксама была затрыманая нямецкая армія й пад Ленінградам, якога не патрапіла здабыць да надыходу зімы. Але на паўдзённым адрэзку фронту, немцы адкінулі былі савецкую армію аж над Волгу.

**Ф. Кушэль**

(працяг будзе)

